Жыве Беларусь!

# НАРОДНАЯ ГАЗЕТА

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№222 (735) 13-15 лістапада 1993 г. Субота — панядзелак. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 509773 экз. Кошт у розніцу — 25 руб.

*На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

# Аб шляхах выхаду Рэспублікі Беларусь з крызіснай сацыяльна-эканамічнай сітуацыі

## Даклад Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.С.Шушкевіча

У незваротнасці дэмакратычных пераўтварэнняў можна быць упэўненым толькі тады, калі забяспечана трываласць эканамічнага падмурка эфектыўная рынкавая эканоміка. Яе галоўныя рысы:

значная частка насельніцтва з'яўляюцца ўласнікамі, прычым у адрозненне ад ананімнай сацыялістычнай уласнасці кожны добра ведае, што яму належыць;

кожны мае свабодны доступ да ўсіх відаў прадпрымальніцтва;

эканамічныя адносіны пры мінімуме абмежаванняў падпарадкоўваюцца толькі закону, а не жаданням чыноўнікаў;

законы простыя, ясныя, і выкананне іх лёгка кантралюецца;

дзяржава садзейнічае прадпрымальнікам, абараняе іх інтарэсы, стварае роўныя ўмовы ўсім суб'ектам гаспадарання, дапамагае ім заваяваць рынкі і набыць рэсурсы.

Стратэгія пераходу да рынкавай эканомікі добра вядома і ажыццяўляецца ў дзесятках дзяржаў на прасторах ад В'етнама і Кітая да Венгрыі і Усходняй Германіі. Пры ўсёй розніцы падыходаў **шлях да рынку складаецца з чатырох працэсаў:**

**1) рашучая прыватызацыя, фарміраванне слоя ўласнікаў;**

**2) стварэнне стабільнай нацыянальнай фінансавай інфраструктуры;**

**3) інтэграцыя ў сусветную эканоміку або паступовая і абгрунтаваная лібералізацыя знешнеэканамічных зносін;**

**4) стварэнне справядлівай сістэмы сацыяльнай абароны.**

Заканадаўчая база рэфармавання эканомікі створана. Вярхоўным Саветам прыняты і ўведзены ў дзеянне законы аб замежных інвестыцыях, аб уласнасці, аб прадпрымальніцтве, аб дзяржпрадпрыемствах, аб праве ўласнасці на зямлю, аб раздзяржаўленні і прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці, аб імянных прыватызацыйных чэках, аб акцыянерных таварыствах, таварыствах з абмежаванай адказнасцю альбо з дадатковай адказнасцю, аб дэманапалізацыі, аб каштоўных паперах і фондавых біржах, аб таварных біржах, аб Нацыянальным банку і банкаўскай дзейнасці, аб эканамічнай неплацежаздольнасці і банкруцтве, Мытны кодэкс і іншыя.

Значыцца, праграма, заканадаўчая база рэфармавання эканомікі створана. І гэта нельга ідэалізаваць. Але яны акрэсліваюць галоўную стратэгічную лінію ў эканамічным развіцці рэспублікі лінію на сацыяльна-эканамічны суверэнітэт, паслядоўнае і рашучае ўвядзенне рынкавых адносін і з іх дапамогай стабілізацыю, а затым павышэнне эфектыўнасці гаспадаркі. Зазначым, што ўсе распрацаваныя і ўнесеныя Урадам у Вярхоўны Савет прапановы па эканамічных пераўтварэннях, уключаючы Рэспубліканскую праграму пераходу да рынкавай эканомікі (1991 год), Дзяржаўную праграму па стабілізацыі эканомікі і сацыяльнай абароне насельніцтва (1991 год), Рэспубліканскую і Дзяржаўную праграмы прыватызацыі разгледжаны і прыняты.

### 1. ЦІ ВІНАВАТЫ РЭФОРМЫ Ў КРЫЗІСЕ?

Ітак, законы і дзяржаўныя праграмы пераходу да рынкавай эканомікі былі і была магчымасць пайсці па рынкаваму шляху, шляху Венгрыі, Польшчы і іншых краін, ужо забяспечыўшых эканамічны ўзрост. Зазначым, што стартавыя ўмовы для правядзення рэформ у Беларусі былі не горшыя, а можа і лепшыя, чым у іншых.

Адлік часу рэформ Беларусь павінна была пачаць з 13 кастрычніка 1990 года, калі Вярхоўны Савет прыняў урадавую праграму пераходу да рынкавай эканомікі. Гэта была неблагая праграма, і ў ёй, яшчэ ў стане Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі былога СССР, было аб'яўлена, што мы будуем нацыянальную самастойную эканоміку. Прайшло амаль чатыры гады: той жа Урад, той жа Вярхоўны Савет і ні адна з мэт не дасягнута. Чаму ж так атрымалася, хто нясе адказнасць?

Безумоўна, былі аб'ектыўныя абставіны і цяжкасці. Я іх аналізаваў на мінулай сесіі і прапанаваў шляхі выхаду. Але тады ўвага ўсіх была адцягнута ад балючых пытанняў эканомікі дыскусіяй аб калектыўнай бяспекі. Урад і большасць дэпутатаў былі перакананы, што падпісанне Пагаднення аб калектыўнай бяспецы будзе тым палітычным актам, які спрычыніцца паляпшэнню нашага эканамічнага становішча. Пагадненне падпісана, але эканамічныя надзеі, прабачце, засталіся надзеямі.

Якімі ж былі галоўныя стартавыя цяжкасці? Неэфектыўнае выкарыстанне амаль бясплатных рэсурсаў у мілітарызаванай эканоміцы былога СССР немінуча вяло да спустошэння рэсурсаў і да дэфіцытаў. У сваю чаргу хранічны дэфіцыт штурхаў рэспублікі, рэгіёны, вобласці і нават прадпрыемствы да правядзення самастойнай эканамічнай палітыкі. Таму, як толькі з'явілася прававая база ў выглядзе "Закона аб прадпрыемстве СССР" (1988 год), дзяржпланаўская сістэма паставак пачала разбурацца. Лібералізацыя знешнеэканамічных зносін, пачатая яшчэ М.С.Гарбачовым, прывяла да таго, што рэсурсы пацяклі туды, дзе іх лепш умеюць выкарыстоўваць. За долары, нават па дэмпінгавых цэнах, прадаваць іх стала больш зручна, чым традыцыйнаму пакупніку за рублі.

У выніку дэфіцыт, узмоцнены адкрыццём знешніх граніц і з'яўленнем унутраных пад лозунгам "абароны спажывецкага рынку", прывёў да разбурэння сістэмы паставак. Зазначу, што антырынкавы Закон аб абароне спажывецкага рынку быў прыняты 25 кастрычніка 1990 года, і спатрэбілася больш двух гадоў, каб спазнаць яго шкоду.

Эканамічная дэзінтэграцыя дасягнула апагея пасля ўвядзення Расіяй розных цэн для сваіх пакупнікоў і чужых. У спалучэнні з мытнымі зборамі па пэўных таварах мы сталі неканкурэнтаздольнымі і на рынку Расіі. Цяпер, нават калі цэны на сыравіну выраўняюцца і стануць блізкімі да сусветных ці адменяцца мытныя зборы, нашым вытворцам будзе цяжка вярнуць страчаныя пазіцыі.

Прамысловасці прычынены цяжкі ўрон не столькі высокімі цэнамі на рэсурсы (яны раслі і будуць расці), колькі рознымі цэнамі, а значыць рознымі выдаткамі і рознай канкурэнтаздольнасцю.

Неадваротнасць рэфармавання была ўсім зразумелая. Аднак Урад рэспублікі не павёў эканоміку па шляху рэфармавання, не распачаў прагматычную палітыку адаптацыі да новых абставін, а ўсё наіўна спадзяваўся на зварот на мінулае: "будзе Саюз–і ўсё вернецца", "будзе калектыўная бяспека–стане лепей", "будзе рублёвая зона–і ўздыхнём лягчэй". Вынік развал эканомікі, крах крэдытна-фінансавай сістэмы, імклівы рост інфляцыі і катастрафічнае зніжэнне ўзроўню жыцця насельніцтва Беларусі.

За апошнія гады нацыянальны даход і прамысловая вытворчасць Беларусі зменшыліся на чвэрць, сельскагаспадарчая вытворчасць на 20 працэнтаў, прадукцыя жывёлагадоўлі скарацілася на 40 працэнтаў. У 1992 годзе спад вытворчасці ў прамысловасці склаў 9,4 працэнта. На 1993 год Урад прагназаваў зніжэнне аб'ёму вытворчасці на 3 працэнты. Фактычны спад за 9 месяцаў склаў 14,6 працэнта. Самы вялікі спад у бягучым годзе адбыўся ў паліўнай прамысловасці–на 44,9 працэнта, у нафтаперапрацоўчай–на 44,7, у хімічнай і нафтахімічнай–на 19,6. Гаспадарка рэспублікі апынулася ў цяжкім энергетычным крызісе. Толькі ў жніўні з-за недахопу энерганосьбітаў не выраблена прадукцыі на 64,2 мільярда рублёў. Зніжэнне паступлення ў рэспубліку нафты абумоўлена пераважна тым, што выканаўчая ўлада да самага апошняга моманту рабіла ўсё, каб зберагчы манаполію на нафтапрадукты. Урад вымушаны быў адступіцца пад націскам Прэзідыума Вярхоўнага Савета, але давер камерцыйных структур да Урада ўжо падарваны.

Органы дзяржаўнага кіравання недастаткова засяродзілі ўвагу на недапушчальна вялікай энергаёмістасці вытворчасці. Рэспубліка жыве марнатраўна. Аб'ёмы вытворчасці зменшыліся, а матэрыялаёмістасць і энергаёмістасць узраслі. У той жа час у Венгрыі, блізкай да нас па эканамічных параметрах, спажыванне нафты за пяць гадоў зменшылася ў 2,5 раза.

Сёння мы адносімся да самых энергаёмістых дзяржаў свету. Нават у гэтым годзе мы атрымаем на кожнага жыхара нафты 1,6 тоны, а гэта больш, чым у ФРГ (1,2 тоны) альбо Францыі (1,2 тоны). Трэба рашуча браць курс на энергазберажэнне. Прыйшоў час лічыць, што і колькі каштуе. Неабходна канкрэтызацыя нацыянальнай энергетычнай праграмы для новых эканамічных умоў. На жаль, за апошнія гады амаль нічога не зроблена па ажыццяўленню жорсткага рэжыму эканоміі. Замест гэтага створаны чарговы Камітэт па энергазберажэнню пры Савеце Міністраў. А чаму гэтым не можа і не павінна займацца Міністэрства энергетыкі? Незразумела. А як з іншымі рэсурсамі? Можа, Урад будзе ствараць камітэты па зберажэнню нафты, газу, металу, гумы, каб чарговая група чыноўнікаў утульна ўладкавалася і выпрацоўвала парадак, каму, па якому тарыфу і што спажываць. Відавочна, што гэтыя людзі не пойдуць на ўкараненне рынкавых механізмаў, бо яны рынкавай сістэме не патрэбны.

Цяпер давайце прааналізуем, як рэалізаваны ў нас важнейшыя складаючыя рынкавых рэформ, заканадаўча афармленыя Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь і прадэклараваныя ў шматлікіх праграмах Урада.

### Фінансавая сітуацыя

Недастаткова абгрунтаваныя рашэнні па пытанню грашовага абарачэння і крэдытавання наносяць найбольшы ўрон эканоміцы. Без стабілізацыі грашова-крэдытнай сістэмы, без прадухілення інфляцыі на эканоміку цяжка ўздзейнічаць якімі-небудзь рычагамі. Стрыжнем палітыкі фінансавай стабілізацыі наш Урад, услед за Расіяй, выбраў лібералізацыю цэн, але ў адрозненне ад Расіі, дзе гэта палітыка спалучылася з дэманапалізацыяй сферы гандлю, у нас адбываецца толькі павышэнне цэн. Больш таго, за датацыі, замест адраснай падтрымкі спажыўцоў, павялічваецца дэфіцыт бюджэту. Напрыклад, яўныя і скрытыя датацыі сельскай гаспадарцы ў гэтым годзе па падліках экспертаў склалі амаль трыльён рублёў, але ці дайшлі яны да вытворцаў?

З мэтай правядзення больш-менш самастойнай фінансавай палітыкі Урад увёў разліковыя білеты як дадатковыя наяўныя грошы, якія пасля ўвядзення Расіяй уліку балансу безнаяўных разлікаў фактычна сталі нацыянальнай грашовай адзінкай, і можна было па прыкладу Літвы, Латвіі распрацаваць комплекс мерапрыемстваў па стабілізацыі грашовага абарачэння і спыненне гіперінфляцыі. Трэба канстатаваць, што гэта спроба з-за пралікаў крэдытнай эмісіі, слабай экспартна-імпартнай палітыкі, дрэннай кантралюемасці банкаўскіх структур, парушэнняў у выкананні бюджэту Рэспублікі Беларусь была няўдалай і толькі прадэманстравала наш нізкі рынкавы прафесіяналізм. Толькі ў пачатку года было выдадзена крэдытаў амаль на палову трыльёна рублёў гэта прыкладна 50 працэнтаў валавога нацыянальнага даходу.

Як жа размяркоўваліся крэдыты? Пад якія працэнты?

Так, у мінулым годзе крэдыты выдзяляліся ў сярэднім пад 17,4 працэнта гадавых, а інфляцыя па аптовых цэнах склала 4200 працэнтаў. У бягучым годзе крэдыты ў сярэднім выдзяляюцца пад 63-68,3 працэнта, але нехта плаціць 210 працэнтаў, а нехта атрымлівае падарункі. Хто ж атрымлівае льготныя крэдыты? Вытворцы? Не! Вось прыклады. Белаграпрамбанк крэдытаваў не вясенне-палявыя работы, а куплю-продаж шампанскага на 323 мільёны рублёў. Белбізнесбанк крэдытаваў маскоўскай кампаніі "Віцязь" 4 мільярды рублёў пад 35 працэнтаў гадавых нібыта на закуп нафты. Усяго ж пастаўлена, прычым амаль праз год, невялікая колькасць нафтапрадуктаў ужо па сённяшніх цэнах. Банк "Беларусь" крэдытаваў свайго старшыню ў 1992 годзе на 1,5 мільёна рублёў пад 1 працэнт на 40 гадоў, а ў 1993 годзе на 10 мільёнаў пад 10 працэнтаў на 5 гадоў. Дадзеныя прадстаўлены Генеральным пракурорам Рэспублікі Беларусь.

А вось некалькі прыкладаў парушэння ў 1993 годзе Закона Рэспублікі Беларусь "Аб дзяржаўным бюджэце", прадстаўленых Кантрольнай палатай. За 7 месяцаў 1993 года Урад прыняў 17 пастаноў і распараджэнняў аб фінансаванні дадатковых выдаткаў на суму амаль 59 мільярдаў рублёў. Якімі даходамі яны будуць пакрыты? Урад прадаставіў 38 прадпрыемствам ільготы па падатках на суму 32,5 мільярда рублёў і тым самым прымусіў плаціць іншых за тых, каму даў прывілеі.

Даючы льготы па падатках, Урад фактычна забірае даходы з мясцовых Саветаў і тым самым парушае Закон Рэспублікі Беларусь аб мясцовым самакіраванні. Так, напрыклад, змяншэнне падатку на дабаўленую вартасць Мінскаму аб'яднанню вылічальнай тэхнікі прывяло да таго, што бюджэт не атрымаў 338,7 млн. рублёў. Пры гэтым Савецкі раён горада Мінска не атрымаў 84,7 млн. рублёў. А на такія грошы раён змог бы закупіць для школ дзесятак камп'ютэрных класаў у таго ж аб'яднання вылічальнай тэхнікі. Тым самым і грошы аб'яднанню вярнуліся б і праца рабочым была б. А так атрымліваецца, што мы забіраем грошы ў тых, хто добра працуе, і фінансуем тых, хто не працуе. Не льготы заводам патрэбны, а заказы. Тыя ж камп'ютэры можна было заказаць у свайго вытворцы, а не плаціць валюту за сабраныя на невядома якім заводзе, дарэчы, у Расіі.

Другім дабрадзеем з'яўляецца Міністэрства фінансаў, якое ва ўмовах інфляцыі, даючы адтэрміноўкі па плацяжах у бюджэт (на 1 ліпеня амаль на 970 млн. рублёў), фактычна беспрацэнтна крэдытуе банкрутаў.

Камерцыйныя банкі, атрымаўшы ў гэтым годзе львіную долю каля 686 мільярдаў рублёў, цэнтралізаваных крэдытаў Нацыянальнага банка, практычна не выдалі вытворцам доўгатэрміновых і сярэднетэрміновых крэдытаў. Ды і сам Нацыянальны банк ад сумы цэнтралізаваных крэдытаў выдзеліў прадпрыемствам 0,6 працэнта, а органам кіравання 32 працэнты. Практыкуецца практыка пакрыцця дэфіцыту бюджэту за кошт эмісіі грошай. Нягледзячы на заканадаўчую базу (Закон Рэспублікі Беларусь "Аб каштоўных паперах і фондавых біржах", Міністэрства фінансаў зацягвае выпуск каштоўных папер, што магло стварыць другасны фінансавы рынак і станоўча ўздзейнічаць на працэс інфляцыі. Вынік "фінансавай стабілізацыі" такі, што інфляцыя дасягнула 30 працэнтаў у месяц, а агульны доўг дзяржавы ўзрос да памеру бюджэту.

### Знешнеэканамічная дзейнасць

Крызіс фінансавай сістэмы паглыбляе слабая экспартна-імпартная палітыка.

Нацыянальны банк сведчыць, што агульны доўг Рэспублікі па знешніх крэдытах і даўгах прадпрыемстваў на 1 кастрычніка 1993 года складае больш аднаго мільярда долараў, у тым ліку дзяржавам, якія раней уваходзілі ў СССР–499,4 мільёна долараў (Расіі–484,4, Казахстану–7,4, Літве–1,0), іншым дзяржавам–506,7 мільёна долараў. Ліміт жа на 1993 год, устаноўлены Вярхоўным Саветам, —710 мільёнаў долараў. Прэзідыум Саўміна на наступны год аб'явіў жадаемы ліміт доўгу–2 мільярды долараў. Сальда знешняга гандлю на 1 кастрычніка 1993 года за межы былога СССР складае мінус 30,6 мільёна долараў. Адзначым, што яшчэ ў 1992 годзе яно было плюс 209,3 мільёна долараў. Прычына–зніжэнне экспарту амаль на 26 працэнтаў пры зніжэнні вытворчасці на 14,6 працэнта. За апошнія два гады экспарт за межы СНД знізіўся дзесьці на 1 мільярд долараў як у натуральным выражэнні, так і з-за зніжэння сярэдняй цаны экспартнага тавару. Значная частка экспартных тавараў рэалізуецца за мяжу па цэнах, значна ніжэйшых за сусветныя, у тым ліку трактары і калійныя ўгнаенні. Адна пара абутку ідзе на экспарт за 7 долараў, а купляем за 18,5. За кожны кілаграм цукру пераплачваем пяць цэнтаў. Як падлічыў народны дэпутат Алампіеў, за 1,3 мільёна долараў, на якія закуплены адзенне і трыкатажныя вырабы, можна было б купіць у Манголіі 566 тон воўны і вырабіць не менш 800 тысяч касцюмаў, забяспечыўшы працай нашы фабрыкі лёгкай прамысловасці.

"Белагразамежгандаль" гандлюе, як выявіла Кантрольная палата, зусім дзіўна: вывозіцца ў Польшчу шпагат па долару за кілаграм і тут жа па цане, амаль удвая большай, увозіцца такі ж; вывозяцца буракі па 45 долараў за тону, а ўвозяцца марынаваныя па 377 долараў; вывозяцца таматы ў Польшчу 600 долараў за тону, а вяртаецца паста 1300 долараў за тону. У гэтым аб'яднанні толькі прамыя страты складаюць 2,4 мільёна долараў. Гэта аб'яднанне "Белагразамежгандаль".

Нямэтава выкарыстаны таксама мінеральныя ўгнаенні са стабілізацыйнага фонду на 4,5 мільёна долараў. І з гэтага стабілізацыйнага фонду, калі вось такія розныя арганізацыі збываюць, як вы ведаеце, яны збіваюць цану і на сусветным рынку зрабілі тую несуразіцу, пра якую неаднаразова гаварыў народны дэпутат Сапронаў.

Пры цяперашняй структуры вытворчасці і пры сусветных цэнах плацёжна-гандлёвае сальда з Расіяй вызначаецца экспертамі як адмоўнае: 2,5 мільярда долараў за год. Гэта дзесьці па 200-250 долараў на чалавека. Па падліках ААН, у нас прыбытак на душу насельніцтва больш 5 тысяч долараў на асобу. І каб была нармальная стратэгія збалансавання гандлю, нічога тут страшнага не было б, але гэтай стратэгіі няма. Сённяшнія нашы фінансавыя эканамічныя праблемы абумоўлены адсутнасцю стратэгіі ліквідацыі дысбалансу гандлю.

А стратэгія простая. Старшыня Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыі Лаўрыновіч сфармуляваў яе так: "Трэба павялічыць экспарт у Расію–будзе і нафта, і газ". Нерэалістычныя надзеі на нярынкавыя адносіны, адсутнасць усялякай экспартнай стратэгіі прывялі ў жніўні-верасні да ліхаманкавых спроб разлічыцца за кошт крэдытаў Міжнароднага валютнага фонду і Валютнага фонду рэспублікі.

Некалькі слоў пра клірынг. Задума была добрая: атрымаць амаль 1,8 мільярда долараў рэсурсаў, паставіўшы ў Расію на такую ж суму аўтамабіляў, трактароў, мяса. Але як рэалізавана? Я хачу сказаць яшчэ пра рэалізацыю. Расія мабілізавала лепшыя свае сілы на падпісанне гэтага клірынгавага пагаднення. Яна прыцягнула прафесіяналаў, спецыялістаў. Мы ж мабілізавалі, каго маглі.

Першае. Цэны ўзяты амаль са столі. Нафта 128 долараў за тону, мяса 1400 долараў за тону. Працейшы арыфметычны баланс ёсць. А ці лічыліся поўныя затраты па лявонцьеўскіх мадэлях на выпуск клірынгавых тавараў з улікам нашых тэхналагічных магчымасцей? Мабыць тады і цэны, і колькасці былі б іншыя.

Другое. А чаму ў клірынг з аднаго боку не быў уключан газ, а з другога кошт яго перапампоўкі праз нашу тэрыторыю?

Трэцяе. Калі пагадненне падпісана, дык патрэбен эфектыўны механізм яго рэалізацыі, выгадны прадпрыемствам і рублёва збалансаваны. А атрымалася што? Штрафы Роскантракту 16,9 мільёна долараў (гэта за тое, што мы несвоечасова нешта робім), а з іх боку яны нам не плацяць ніякіх штрафаў за тое, што яны ў нас не купляюць пэўнай прадукцыі. Такі кантракт. Можна яго прааналізаваць больш дэталёва. Даўгі Роскантракта 41,9 мільёна долараў, даўгі Мінрэсурсаў прадпрыемствам 12,5 мільярда рублёў. Значыцца, нашы прадпрыемствы далі тавары на клірынг, а грошай гэтых не маюць і падрубаецца гэта прамысловасць. І дырэктары заводаў ну проста плачуць, кажуць: цяжка працаваць у гэтых абставінах. Акрамя таго, на пакрыццё страт дзяржавы па клірынгавых аперацыях у бюджэце плануецца 125 мільярдаў рублёў.

Як ідзе прыватызацыя?

Працай і потам некалькіх пакаленняў беларускага народа стваралася агульнанародная ўласнасць, менавіта агульнанародная, а не дзяржаўная. Як сцвярджае дзеючая Канстытуцыя Беларусі, сапраўдным уласнікам з'яўляецца народ. Дзяржава толькі абараняе і стварае ўмовы для яе павелічэння. Прынцып народнай прыватызацыі, а гэта значыць, бясплатнай перадачы народу часткі ўласнасці, закладзены яшчэ ў прынятых у 1991 годзе канцэптуальных палажэннях раздзяржаўлення і прыватызацыі. Ён абумоўлены патрабаваннямі сацыяльнай справядлівасці, неабходнасцю ўдзелу ў прыватызацыі ўсіх грамадзян Беларусі, жаданнем стварыць максімальна шырокі пласт уласнікаў, навучыць насельніцтва пачаткам рынкавай эканомікі, неабходнасцю з дапамогай дывідэндаў падтрымаць у пераходны перыяд сацыяльна неабароненыя пласты насельніцтва.

Эфектыўнасць схемы бясплатнай прыватызацыі абгрунтавана вядомым амерыканскім эканамістам Мілтанам Фрыдманам, які пісаў: "Рэальны ўласнік дзяржаўных прадпрыемстваў грамадства. Стварыце грамадскую карпарацыю, дайце кожнаму грамадзяніну адну альбо сотню акцый, дазвольце ім свабодна прадаваць і набываць гэтыя акцыі". Пасля паўтарагадовых дэбатаў прыняты Закон "Аб імянных прыватызацыйных чэках", які дае прававую аснову бясплатнай народнай прыватызацыі. Разам з пакетам палажэнняў аб ацэнцы каштоўнасці, аб аўкцыёнах, конкурсах, аб камісіі па прыватызацыі, распрацаваных выканаўчай уладай, гэты закон мог бы скласці поўны пакет прыватызацыйных дакументаў для хуткай народнай прыватызацыі.

Але Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь "Аб мерах па рэалізацыі Закона "Аб імянных прыватызацыйных чэках" адкладвае выдачу чэкаў да ліпеня 1994 года. Я мяркую, што гэта недапушчальна позна. На сёння прыватызавана толькі 2,68 працэнта балансавага кошту прадпрыемстваў. Няўжо з 1991 года, калі была прынята канцэпцыя бясплатнай прыватызацыі, не было часу падрыхтаваць працэдуру?

А калі ўжо так, то цяпер трэба хутка арганізаваць выдачу чэкаў па спрошчанай працэдуры. Напрыклад, няхай ваўчарам будзе старонка былога савецкага пашпарта. Гэта дакумент, які цяжка падрабіць і які не вельмі патрэбны, напрыклад рускамоўная старонка. Можна і іншыя варыянты пашукаць. Шукаюць людзі варыянты ў такой сітуацыі. А калі не ідзе народная прыватызацыя, дык ідзе скрытая прыватызацыя, называемая ў народзе "прыхватызацыяй".

Я не буду пералічваць дзесяткі прыкладаў, якія выяўлены Кантрольнай палатай. Многія з іх прыводзіліся ў прэсе. Наогул, як паведаміў Генеральны пракурор, трэць прыватызаванай маёмасці ў 1991-1992 гадах была перададзена бясплатна і не за ваўчары. Галоўная ў гэтых прыкладах "прыхватызацыі" тэндэнцыя "чым кірую, тое і прыватызую". Можа, таму так актыўна некаторыя чыноўнікі выступаюць супраць народнай прыватызацыі.

Закліку "хапай, хто можа" трэба паставіць заслон і падрыхтаваць адпаведныя законы. На жаль, недапрацаваны законы, абараняючыя агульнанародную ўладу. Незразумела, хто ў рэспубліцы гаспадар уласнасці, а хто ёю распараджаецца. Толькі па патрабаванню Кантрольнай палаты Урад прыняў некаторыя дакументы, якія рэгулююць распараджэнне дзяржаўнай маёмасцю. Недасканалая нарматыўная база для дзяржаўных прадпрыемстваў і прадпрыемстваў са змешанай формай уласнасці дае неабмежаваныя магчымасці для злоўжыванняў. Напрыклад, аналіз існуючага парадку размеркавання чыстага прыбытку, які застаецца ў распараджэнні змешанага прадпрыемства, сведчыць аб неэфектыўным, а магчыма, злачынным распараджэнні дзяржмаёмасцю, перададзенай у статутныя фонды. Заснавальнікі згодна закону распараджаюцца гэтым прыбыткам па свайму меркаванню. Не забаронена ўвесь яго накіроўваць у фонды, нічога не размяркоўваючы паміж заснавальнікамі. Гэта значыць, дзяржава, уклаўшы, напрыклад, у камерцыйны банк істотныя актывы, нічога не атрымлівае.

Другое парушэнне адбываецца пры выхадзе дзяржпрадпрыемства са складу заснавальнікаў. Звычайна вяртаецца ўзнос у статутны фонд (я думаю, што жартаўлівасць гэтага акту ўсім зразумела, так?), а не прапарцыянальная яму частка маёмасці.

Трэцяе парушэнне — заніжэнне каштоўнасці асноўных фондаў пры прыватызацыі.

Адзначым, што ёсць і пэўныя станоўчыя вынікі. Ідзе фарміраванне элементаў рынкавай інфраструктуры, набіраюць сілы новыя формы гаспадарання, паступова пачынае працаваць рынкавы механізм попыту і прапаноў. Пакрыху развіваюцца малы і сярэдні бізнес. Зарэгістравана амаль 30 тысяч малых прадпрыемстваў, каля 250 акцыянерных таварыстваў, амаль 4 тысячы кааператываў. Створана каля 1000 сумесных прадпрыемстваў, з іх 185 займаюцца вытворчасцю.

Але мала прыватызаваць прадпрыемствы. Неабходна стварыць умовы для развіцця прадпрымальніцтва, стварыць рынкавыя інстытуты. А што атрымліваецца? Большасць прадпрымальнікаў лічыць, што станаўленню прыватнага сектара актыўна перашкаджаюць структуры выканаўчай улады, свядома ствараючы ўмовы для нераўнапраўнай канкурэнцыі з наменклатурным бізнесам.

Першы намеснік старшыні Гаспадарчага суда Рэспублікі Беларусь Кісялёў вымушаны быў адзначыць: "Уся судовая практыка апошніх трох год сведчыць аб тэндэнцыях умяшальніцтва ў працу недзяржаўных фірм з фактамі ўдушэння, прычым не камерцыйных, а вытворчых структур, неправавымі, эканамічнымі, амаральнымі метадамі праз банкі, дзяржканцэрны, мясцовыя ўлады". У выніку лягчэй устаюць на ногі прадпрыемствы ў галінах, дзе не трэба асабівай кваліфікацыі, не трэба вялікіх пачатковых інвестыцый (гандаль, паслугі і гэтак далей), але гэтыя галіны мінімальна ўздзейнічаюць на агульную сітуацыю ў эканоміцы і не даюць патрэбных структурных змен.

### Кіраванне дзяржаўным сектарам

У рынкавых умовах дзяржава клапоціцца аб эфектыўным выкарыстанні дзяржаўнага сектара эканомікі. У пераходны перыяд яна абавязана рыхтаваць прадпрыемствы і іх кіраўнікоў да рынку, але пры гэтым не забываць, што да прыватызацыі кантроль за маёмасцю ажыццяўляе дзяржава і дзяржаўная маёмасць, як правільна сказаў намеснік старшыні Рэспубліканскай партыі працы і справядлівасці Ромаш, павінна выкарыстоўвацца для ўсяго беларускага народа, а не для ўзбагачэння асобных груп насельніцтва.

Неабходна ўвесці кантрактную сістэму гаспадарання па прыкладу Кітая. Яна вызначае жорсткую залежнасць аплаты працы кіраўнікоў ад канчатковых вынікаў. Атрымаў прыбытак–маеш добрую зарплату, а не стрымаў абяцанне аб нарматыве прыбытку - уступі месца другому.

Сёння, па дадзеных Дзяржкамстата, 437 стратных прадпрыемстваў. Агульная сума страт 30 мільярдаў рублёў. Нават прадпрыемствы, якія забяспечваюць прыбытак, трымаюцца не за кошт павышэння эфектыўнасці і рэнтабельнасці (яна ўпала амаль на трэць толькі ў мінулым годзе), а за кошт павышэння цэн.

Сур'ёзна непакоіць праблема інвестыцый. Асноўныя фонды прамысловасці аднаўляюцца дрэнна. Толькі пятая частка прыбытку (каля 40 мільярдаў рублёў), атрыманага прадпрыемствамі ў 1992 годзе, была накіравана на ўзнаўленне. Негатыўныя вынікі для прадпрыемстваў мела зацягнутая пераацэнка асноўных фондаў, якая павысіла іх кошт толькі ў 16,4 раза, калі індэкс інфляцыі ў 1992 годзе па аптовых цэнах склаў 42 разы.

Доля амартызацыйных адлічэнняў у фонд накаплення зменшылася з 80 працэнтаў у 1990 годзе да 12 працэнтаў у 1992 годзе. Для аднаўлення інвестыцыйных рэсурсаў прадпрыемстваў неабходна спрасціць парадак выкарыстання правоў на паскораную амартызацыю. Заканадаўча гэта норма дзейнічае, аднак парадак атрымання дазволу на выкарыстанне яе вельмі ўскладнены.

У цяжкім фінансавым становішчы знаходзіцца значная частка калгасаў і дзяржгасаў. За 1992 год 8 з іх закончылі год са стратамі, за 8 месяцаў бягучага года–65. Не лепшае становішча ў фермерскіх гаспадарках. Адна з прычын такога становішча –крызіс энергарэсурсаў, адсутнасць у мінулым годзе парытэту цэн на сельскагаспадарчую і прамысловую прадукцыю. Я мог бы прыводзіць многа лічбаў, яны ў мяне ёсць па спаду сельскагаспадарчай вытворчасці, але мне здаецца, што ўсе іх тут цудоўна ведаюць. Я прывяду толькі адну лічбу, што калі ўсё будзе ісці так, то ў наступным годзе наша жывёлагадоўля ў два разы зменшыцца ў параўнанні з 1990 годам. Гэта сумны такі вынік.

Вялікае здзіўленне выклікае пастаяннае жаданне структур выканаўчай улады стрымліваць працэс выдзялення зямель для фермераў, для будаўніцтва жылых дамоў, вядзення агародніцтва і садаводства. Трэба адзначыць, што разгледжанае Прэзідыумам Вярхоўнага Савета тройчы за апошнія гады пытанне ажыццяўлення зямельнай рэформы ў рэспубліцы садзейнічала некаторай актывізацыі практычнай дзейнасці ў гэтым напрамку. На 1 ліпеня 1993 года створаны 2670 сялянскіх фермерскіх гаспадарак. У сярэднім на адну фермерскую гаспадарку прыпадае каля 20 гектараў зямлі. Атрыманне грамадзянамі ўчасткаў зямлі для вядзення гаспадаркі яскрава паказала, што нават ва неўраджайным 1992 годзе рэспубліка не адчувала праблем з бульбай і гароднінай, бо грамадзяне забяспечылі сябе гэтым самі.

На жаль, выканаўчыя ўлады ўсіх узроўняў не прыкладаюць дастатковых намаганняў для выканання законаў і пастаноў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па пытаннях зямлі, прыярытэтнага сацыяльна-культурнага і эканамічнага развіцця сяла і аграпрамысловага комплексу, сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак.

Такім чынам, паспрабуем адзначыць асноўныя прычыны крызісу.

Прычына першая. Тэхналагічная адсталасць па сусветных мерках, нябачная пры замкнутай эканоміцы і танных рэсурсах, ва ўмовах лібералізацыі знешнеэканамічных зносін і набліжэнні цэн на рэсурсы да сусветных прывяла да неканкурэнтаздольнасці значнай часткі нашай прадукцыі і рэзкага скарачэння магчымасцей імпарту рэсурсаў. Працэс будзе паглыбляцца, бо праз год-два расійскі рынак нічым не будзе адрозніваецца ад сусветнага.

Другая прычына крызісу. Рэзкае неабарачальнае скарачэнне ваенных заказаў і абумоўленая ім канверсія абароннай прамысловасці. Гэтыя дзве прычыны ад нас не залежаць–ні ад Урада, ні ад Вярхоўнага Савета, і мы можам толькі канстатаваць, што гэта так. Што да далейшых прычын, тут справа іншая.

Трэцяя прычына. Сітуацыя ўскладняецца з-за крызісу фінансавай сістэмы. Яму спрычыніліся як знешнія фактары, так і дапушчаныя памылкі пры ўвядзенні нацыянальных разліковых білетаў, нярынкавая крэдытная палітыка, прамаруджанне пры стварэнні рынку грашовых сродкаў краін СНД. Няўдалыя спробы адміністрацыйнымі метадамі рэгуляваць разлікі паміж краінамі СНД прывялі да адтоку з рэспублікі "мяккіх валют" і ў выніку да іх дэфіцыту пры ўзаемаразліках. Па ацэнках экспертаў, вываз капіталу за межы Рэспублікі Беларусь складае некалькі мільярдаў долараў у год. Урад якіх-небудзь разлікаў з гэтай нагоды не публікаваў. Адміністрацыйныя заклікі да дэкларавання капіталу ў замежных банках ні рублёў, ні долараў не вернуць. Трэба стварыць рынкавыя ўмовы для вяртання капіталу (я яшчэ пра гэта скажу).

Чацвёртая прычына крызісу. Самаўхіленне Урада ад вырашэння праблемы вытворчага характару, слабы кантроль за дзяржаўнай маёмасцю і прыбыткам. Здаецца, што Урад замнога займаўся напісаннем тэарэтычных праграм перабудовы прамысловасці, канверсіі, развіцця прадпрымальніцтва і палітычнай дэкларацыі тыпу: будзе Саюз–будзе ў кватэрах цёпла. Я хачу сказаць, што тая праграма эканамічнага развіцця, якую мы атрымалі, яна прагназуе падзеі да 2010 года, а тое, што нічога па прагнозах не здарылася таго, што яны прагназавалі ў 1993 годзе, яны проста не заўважаюць. Я не ведаю, хто там такія паперы піша. Большасць гэтых дакументаў адарвана ад канкрэтных вытворцаў. У іх не закладзены механізмы рэалізацыі намераў. Утварыўшы шматлікія надміністэрскія ўпраўленні і дэпартаменты, Саўмін абмежаваў уладу міністраў, якім паўнамоцтвы надаў Вярхоўны Савет. Тым самым размылася персанальная адказнасць за даручаную справу. А калі не кожны кіраўнік дакладна ведае, за што адказвае і перад кім, ствараюцца спрыяльныя ўмовы для ўседазволу і бясчынстваў чыноўнікаў. Шлях да рынкавых адносін ускладняецца, а прастора для карупцыі пашыраецца. Трэба зазначыць, што справы былі б яшчэ горшымі, калі б Беларуская навукова-прамысловая асацыяцыя не ўзяла на сябе цяжар праблем каардынацыі і эканамічнага рэгулявання на ўзроўні прадпрыемстваў. Вынік сумны фактычна не выкананы ні адзін з пунктаў Дзяржаўнай праграмы БССР па стабілізацыі эканомікі і сацыяльнай абароне насельніцтва. Не ўдалося пераадолець галоўныя негатыўныя тэндэнцыі ў эканамічным і сацыяльным развіцці рэспублікі. Урад не знайшоў сіл і рашучасці пайсці па сапраўды рынкаваму шляху. Зараз эканоміка падышла да той мяжы, за якой рэзкі спад вытворчасці, масавае беспрацоўе, гіперінфляцыя. Урад не рашыўся ісці да рынку і да апошняга моманту накіроўваў усе намаганні на "восстановление нарушенных связей", маючы на ўвазе пераважна негаспадарчыя. Такі курс затармазіў рэформы, расцягнуў на некалькі гадоў шок ад цэнавай тэрапіі, не падтрыманай стварэннем рынку малых вытворцаў, і зусім не даў тэрапіі прамысловасці. Супярэчлівасць, разгубленасць, павольнасць, я б сказаў, нават млявасць Урада павергла саму ідэю рэформ дыскрэдытацыі. Не курс рэформ прывёў да поўнага развалу эканомікі, а іх поўная адсутнасць.

Цяпер у даведзенай да поўнага краху эканоміцы ліхаманкавае правядзенне мер, надыктаваных Міжнародным валютным фондам, можа прывесці да нацыянальнай катастрофы. Таму лічу, што патрабуецца сур'ёзнае кадравае абнаўленне ва ўрадавых структурах, адказнасць за эканамічныя рэформы. Сёння ў Беларусі дакладна праявіліся прафесіяналы ў галіне рынкавай эканомікі з ліку дырэктароў прадпрыемстваў, прадпрымальнікаў, парламентарыяў, якія здольны рэалізаваць кардынальныя рынкавыя рэформы.

У тым, што гэта не зроблена да гэтага часу, ёсць віна і Прэзідыума Вярхоўнага Савета, і яго Старшыні. Скажу прама: нельга ў гэтай сітуацыі спасылацца на ўрадавую большасць у Вярхоўным Савеце. Трэба было больш намаганняў прыкласці, каб у рамках Канстытуцыі ўзмацніць кантроль за дзейнасцю Урада, знайсці механізм уздзейнічання на яго эканамічную палітыку і персанальны склад.

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

